наша свабода

№102(189) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

19 ВЕРАСНЯ 2001 года СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



# Не блізка да еўрапейскай дэмакратыі

Прэзідэнцкія выбары ў Беларусі павінны былі наблізіць краіну да еўрапейскай дэмакратыі, аднак гэтага не адбылося. Такую заяву зрабіў дзеючы старшыня АБСЕ, міністр замежных справаў Румыніі Мірча Джаанэ, выступаючы з дакладам на 6-й нарадзе АБСЕ па выкананні абавязацельстваў у галіне правоў чалавека, якая адкрылася ў Варшаве 17 верасня.

Як паведамляе прэс-служба грамадскай ініцыятывы «Хартыя'97», у дакладзе адзначаўся прагрэс, якога дасягнулі ў справе забеспячэння свабодных і дэмакратычных выбараў такія краіны як, напрыклад, Албанія, Боснія і Герцагавіна. У Беларусі ж «такога прагрэсу не было». «Міжнародныя назіральнікі пастанавілі, што выбарчы працэс у Беларусі не адпавядаў стандартам АБСЕ», — гаварылася ў дакладзе.

Разам з тым, заявіў Мірча Джаанэ, АБСЕ не губляе надзеі на развіццё беларускай дэмакратыі. Разумеючы, што ізаляцыя Беларусі не адпавядае інтарэсам яе жыхароў і не будзе садзейнічаць развіццю працэсаў дэмакратыі, АБСЕ мае намер працягваць кантакты з беларускай грамадзянскай супольнасцю.

Падчас іншых выступленняў на нарадзе ў Варшаве Беларусь неаднаразова згадвалася сярод краінаў, дзе працягваецца збядненне насельніцтва.

**БелаПАН**



Фота IREX/ProMedia

## Мнение Белого дома о честности выборов

США отказываются считать честными проведенные в Беларуси президентские выборы. «Александр Лукашенко, который является последним диктатором в Европе, украл у белорусского народа не только выборы, но и шанс вернуться на путь к демократии и свободной рыночной экономике», — заявил официальный представитель Белого дома Ари Флейшер. По его словам, президент США Джордж Буш сожалеет об этим и считает, что мир не может признать результаты состоявшегося в Беларуси голосования. Американский представитель добавил, что США и их европейские союзники будут использовать рычаг внешней помощи Беларуси и возможности международных организаций, чтобы «приближать будущее, основанное на уважении демократии, правах человека и верховенстве закона».

## 20 верасня армія прысягне А.Лукашэнку

20 верасня ў Мінску ў Палацы Рэспублікі адбудзецца цырымонія ўступлення на пасаду прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі. На інаўгурацыю запрошаныя паслы замежных дзяржаваў, акрэдытаваныя ў Беларусі, члены ўрада, дэпутаты Палаты прадстаўнікоў і члены Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу, грамадскія дзеячы. У іх прысутнасці Аляксандру Лукашэнку, паўторна абранаму на пасаду прэзідэнта, будзе ўручанае службовае пасведчанне.

Акрамя таго, як паведаміў БелаПАН прэс-сакратар кіраўніка дзяржавы Мікалай Барысевіч, пасля заканчэння гэтага дзейства на Кастрычніцкай плошчы адбудзецца «цырымонія прынясення ваеннаслужачымі клятвы прэзідэнту Рэспублікі Беларусь». Яе канчатковы сцэнарый цяпер удакладняецца. Чакаецца, што на плошчы будуць сабраныя падраздзяленні, якія прадстаўляюць беларускую армію і іншыя воінскія фарміраванні краіны. Будзе зачытаны тэкст клятвы, і пасля завяршэння цырымоніі падраздзяленні пройдуць па плошчы ўрачыстым маршам.

Хто ініцыіраваў правядзенне падобнай акцыі з прысягай персоне, невядома.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

# За бар'ерам абыякавасці

*Распавед аб тым, як сябры Асацыяцыі інвалідаў-калясачнікаў літаральна «выбівалі» сабе склепавае памяшканне для арганізацыі там спартова-аздараўляльнага цэнтра, мой суразмоўца – намеснік старшыні Мінскай асацыяцыі інвалідаў-калясачнікаў Сяргей Лафіца падсумаваў так : «Было зразумела, што ўсё будзе вельмі няпроста, але каб настолькі цяжка...!». Потым выдзеленае памяшканне затапіла вадой. А наогул гэтая фраза вельмі яскрава характарызуе жыццё чалавека, які не можа хадзіць.*

26 тысяч чалавек на Беларусі, па афіцыйных дадзеных, пазбаўленыя магчымасці самастойна перасоўвацца, і штогод іх колькасць павялічваецца. Каб неяк падрыхтаваць да цяжкасцяў, навучыць, як карыстацца каляскай, іх яшчэ ў бальніцы наведваюць сябры Асацыяцыі інвалідаў- калясачнікаў. Але многіх пацярпелых нічога не цікавіць – яны знаходзяцца ў шоку і не ўяўляюць, як будуць жыць далей.

Цяпер яны людзі з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі. Менавіта так называюць іх у цывілізаваным грамадстве, пазбягаючы слова «інвалід». Адсюль там і стаўленне да іх як да раўнапраўных людзей, а не інвалідаў. У грамадскіх месцах яны адчуваюць сябе звычайнымі людзьмі, бо ніхто навокал «не зважае» на ягоную каляску, не тыцкае пальцам, не абарочваецца і жаласліва не ўздыхае.

Што ж да беларускага грамадства, то, на жаль, думка аб тым, што людзі з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі – раўнапраўная ягоная частка, нас пакуль не закранула. І той стан, у якім яны па гэты час знаходзяцца, сапраўды, можа выклікаць толькі спачуванне.

Пачаць хоць бы з той ж інваліднай каляскі — адзінага сродку сувязі такіх людзей са светам. Розніца паміж нашымі каляскамі і замежнымі, па словах Сяргея Лафіцы, такая ж, як «паміж старэнькім «Запарожцам» і апошняй маркай «Мерседэса».

На калясках Мінскага велазавода хіба толькі па кватэры перасоўвацца: яны дужа прымітыўныя, нязручныя, важаць па 35 кілаграмаў, па лесвіцы на ёй не забрацца без староннняй дапамогі. І ў стандартны ліфт яны не ўваходзяць, бо ён у шырыні мае 60 сантыметраў, а каляска – 62 см.

*Заканчэнне на стар.3*

## З хронікі дзяржаўнага тэрору

Зараз галоўная тэма чалавецтва – тэрор. Хоць і рознамаштабны, ён заўжды скіраваны супраць асобы. Мінскі вопыт з прамінулай выбарчай кампаніі таксама дазваляе тое-сёе прыгадаць. Вось прыклад. 8 верасня, 15 гадзінаў дня. Ідуць пятыя суткі датэрміновых выбараў прэзідэнта Беларусі. Каля помніка Янку Купалу сабраліся маладыя людзі, чалавек дваццаць. З імі разам – паэт і журналіст Славамір Адамовіч. Прыкладна ў 15.25 група перамяшчаецца ў сквер, дзе помнік піянеру-партызану Марату Казею. За маладымі людзьмі – а гэта пераважна студэнты сталічных ВНУ, тэхнікумаў і ПТВ – назіраюць асобы ў цывільным. З вуліцы юнакоў здымаюць праз вокны двух аўтамабіляў тыпу «газэль». Каля 15.40 да хлопцаў падыходзяць два і прапануюць прайсці ў аўтобус для праверкі дакументаў. Не адчуваючы за сабою ніякай віны, восемнаццаць юнакоў згаджаюцца з прапановай цывільных і сядаюць у транспартны сродак маркі «ПАЗ». Нечакана ў некаторых з тых, хто затрымліваў юнакоў, на тварах з'яўляюцца чорныя маскі. Пры гэтым ніхто з іх не назваўся, не сказаў, ад імя якой службы ажыццяўляе свае дзеянні.

*Заканчэнне на стар.3*

## Змаганне ліцэістаў

17 верасня з 7 гадзінаў 20 хвілінаў да 8 гадзінаў 15 хвілінаў ліцэісты Светлагорска (Гомельская вобласць) правялі пікет каля будынка гарвыканкама, што на цэнтральнай плошчы горада.

Як паведаміў БелаПАН дырэктар Светлагорскага філіяла Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа Тэльман Маслюкоў, падобныя пікеты, накіраваныя супраць закрыцця ліцэя, праводзяцца навучэнцамі кожны дзень перад пачаткам заняткаў. Маладыя людзі выходзяць на плошчу пад лозунгамі, сярод якіх — «Не дадзім зачыніць ліцэй!», «Захаваем адзіную ў горадзе беларускамоўную ўстанову!» і «Не жадаем вяртацца ў сярэднюю школу!».

Т.Маслюкоў выказаў спадзяванне на тое, што гарадскія ўлады не дапусцяць ліквідацыі ліцэя як асобнай навучальнай установы. Бацькі навучэнцаў звярнуліся да міністра адукацыі з лістом супраць закрыцця ліцэя, а кіраўніцтва грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» накіравала падобныя звароты кіраўніку Адміністрацыі прэзідэнта Уралу Латыпаву і віцэ-прэм'еру ўрада Міхаілу Дзямчуку.

*Заканчэнне на стар.3*

## Савет міністраў складзе паўнамоцтвы

На 20 верасня запланаванае паседжанне Савета міністраў Беларусі, падчас якога дзеючы ўрад, як мяркуецца, складзе свае паўнамоцтвы ў сувязі з прэзідэнцкімі выбарамі і інаўгурацыяй А.Лукашэнкі ў прэзідэнты на новы тэрмін. Такая працэдура прадугледжаная цяперашняй Канстытуцыяй.

## Талібы могуць выдаць бен Ладэна

18 верасня рух «Талібан» заявіў, што выдача Усамы бен Ладэна магчымая, але толькі пры выкананні шэрагу ўмоваў. Гэта – міжнароднае прызнанне талібскага рэжыму як правячага ў Афганістане, палёгкі што да санкцыяў ААН. Нарэшце, талібы гатовы перадаць бен Ладэна не ЗША ці іхнім хаўруснікам, а нейкай іншай краіне.

## Ганчарык застаецца кіраўніком ФПБ

Колішні кандыдат на прэзідэнта Уладзімір Ганчарык у бліжэйшы час не збіраецца пакідаць пасаду кіраўніка Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай (ФПБ). Пры гэтым пакуль ён не можа назваць асноўныя накірункі дзейнасці ФПБ пасля выбараў. Але праца па стварэнні канцэпцыі далейшай дзейнасці Федэрацыі вядзецца.

## Няшчасці на працы

На вытворчасці ў Беларусі з пачатку 2001 года загінулі 168 чалавек і 447 атрымалі цяжкія траўмы. Асноўныя прычыны траўматызму на месцах працы — эксплуатацыя няспраўнага абсталявання, парушэнне пацярпелымі вытворчай дысцыпліны, а таксама невыкананне кіраўнікамі і спецыялістамі абавязкаў па ахове працы.

## Нацбанк мяняе стаўку рэфінансавання

Базавая стаўка рэфінансавання і ўліковая стаўка Нацыянальнага банка Беларусі з 21 верасня памяншаецца да 48%. Такое рашэнне прынятае праўленнем Нацбанка згодна з асноўнымі кірункамі дзяржаўнай грашова-крэдытнай палітыкі на 2001 год і з прагназаванымі тэмпамі інфляцыі.

## Арышты на «Хімвалакне»

У Светлагорску на вытворчым аб'яднанні «Хімвалакно» арыштаваныя начальнік аддзела знешнеэканамічных сувязяў і ягоны намеснік. Як паведаміла Радыё «Рацыя», ім інкрымінуюцца крадзяжы ў прадпрыемства на суму 1 мільён долараў праз падпісанне з замежнымі фірмамі дамовы на пастаўку сыравіны па завышаных коштах.

**НАДВОР'Е**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**



**1500**

## Справы зніклых — у Еўрапейскі суд

Беларуская апазіцыя мае намер ініцыяваць разгляд гучных справаў аб зьнікненні вядомых палітычных дзеячаў Беларусі ў Еўрапейскім судзе па правах чалавека, паведаміў журналістам 17 верасня ў Мінску лідэр Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) Анатоль Лябедзька.

Паводле яго словаў, ініцыіраваць разгляд беларускіх гучных справаў у Еўрапейскім судзе будзе няпроста, бо Беларусь не ўваходзіць у Савет Еўропы. Аднак, паведаміў Лябедзька, прадстаўнікі апазіцыі знайшлі спосаб, пры дапамозе якога адпаведны зварот з'яўляецца магчымым. Канкрэтызаваць лідэр АГП не стаў. Ён толькі адзначыў, што зараз праводзіцца збор дакументаў, неабходных для падачы звароту ў Еўрапейскі суд па правах чалавека.

**Наталля КУЛАГІНА**

**ФІНАНСЫ**

## Нацбанк мяняе кадры

Шэраг кадравых пытанняў разгледжаны праўленнем Нацыянальнага банка Беларусі.

Як паведамілі БелаПАН у Нацбанку, у сувязі з пераходам на іншую працу ад пасады першага намесніка старшыні праўлення вызваленая Наталля Аляксеева. У кіраўніцтва Нацбанка Наталля Аляксеева прыйшла ў 1997 годзе з пасады старшыні праўлення «Беларускага банка развіцця». Паводле наяўных звестак, нягледзячы на адыход з пасады першага намесніка старшыні праўлення, Наталля Аляксеева застаецца на пасадзе члена праўлення галоўнага банка краіны і працягне сваю дзейнасць у Нацбанку.

Першым намеснікам старшыні праўлення Нацыянальнага банка прызначаны Юрый Алымаў, які раней займаў пасаду намесніка старшыні праўлення. Верагодна, што цяпер ён будзе курыраваць Дэпартамент банкаўскага нагляду, працу якога дагэтуль кантралявала Наталля Аляксеева.

Акрамя гэтых кадравых змяненняў, намеснікам старшыні праўлення — дырэктарам Дэпартамента даследаванняў і статыстыкі прызначаная Галіна Хоціна. Намеснікам старшыні праўлення таксама прызначаны Васіль Мацюшэўскі, які раней узначальваў Дэпартамент міжнародных аперацыяў. Месца кіраўніка гэтага дэпартамента пакуль застаецца вакантным.

**Аляксей АРЭШКА**

## Рэканструкцыя карэктуе рух

У сувязі з рэканструкцыяй Мінскай кальцавой аўтамабільнай дарогі Камітэт па аўтамабільных дарогах вымушаны змяніць маршрут і абмежаваць рух на яе асобных участках.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе Камітэта па аўтадарогах, зараз ідзе падрыхтоўка да выканання комплексу будаўніча-рэканструкцыйных работ на ўчастку кальцавой ад яе перакрыжавання з аўтадарогай М-6 (Мінск - Гродна) да перасячэння з дарогай М-3 (Мінск - Віцебск). У кароткія тэрміны гэты ўчастак дарогі, даўжынёй амаль у 17 кіламетраў, неабходна рэканструяваць, правесці шэраг будаўніча-мантажных работ з давядзеннем праезнай часткі да шасці палос. На гэтым адрэзку запланавана пабудаваць 17 мастоў і пуцеправодаў.

У сувязі з гэтым Камітэт па аўтамабільных дарогах мяркуе на перыяд з 1 кастрычніка гэтага года да 15 верасня 2002 года перакрыць рух па кальцавой дарозе ад 35-га да 52-га кіламетра. На гэты перыяд закрываецца таксама ўчастак аўтамабільнай дарогі Р-28 Мінск - Маладзечна - Нарач ад вуліцы Ціміразева да гандлёвага цэнтра «Ждановічы». Рух транспарту павінен быць арганізаваны па іншых маршрутах.

**Аляксей АРЭШКА**

## Нацыянальны супраціў і духоўнае Адраджэнне

16 верасня на Цэнтральнай Радзе Маладога Фронту сябры гэтай незарэгістраванай арганізацыі вырашалі, што рабіць пасля прэзідэнцкіх выбараў.

Было адзначана, што МФ з дапамогай мабілізацыйнай кампаніі «Выбірай» удалося «вывесці на выбары большасць беларускай моладзі (каля 1.200.000 чалавек з 1,5 мільёнаў маладых выбарнікаў), але сілаў аднаго толькі новага пакалення для перамогі над рэжымам не хапіла».

Як паведамляе прэс-служба арганізацыі, галоўная ж канцэпцыя дзейнасці МФ на бліжэйшыя гады сфармуляваная так: «Нацыянальны супраціў — духоўнае Адраджэнне». Нацыянальны супраціў – гэта «супраціў рэжыму з пастаянным акцэнтаваннем нацыянальнай ідэі, змаганне пад бел-чырвона-белым сцягам, беларускамоўнае адстойванне беларускіх інтарэсаў у надзённым жыцці, на вуліцах і ў студгарадках». Духоўнае адраджэнне азначаецца як «наступная хваля Маладога Фронту, якая павінна ўлічваць асветніцкія, адукацыйныя, культурніцкія, спартовыя, інфармацыйныя акцыі, пакліканыя абудзіць духоўныя сілы моладзі».

Што да першых дзеянняў маладафронтаўцаў, то на Цэнтральнай Радзе арганізацыі было прынятае рашэнне разгарнуць кампанію адстойвання найбуйнейшых беларускіх прадпрыемстваў, якія ўлады збіраюцца прадаць расійскаму капіталу. А напрыканцы верасня распачынаецца новая кампанія «Шоу Беларушчыны», а з 1 кастрычніка – курсы «Дыджэяў Адраджэння».

**Кірэй МАНУЙЛА**

## Баранавічы без казіно

Апошні з усіх раней існуючых у другім па велічыні горадзе Берасцейшчыны гральны дом «Кім» зачынены ў адпаведнасці з ануляваннем ліцэнзіі ў міністэрстве спорту і турызму. Маёмасць гэтага казіно, якое належыць прыватнай фірме «Дар'ян» і мае кошт 18,5 мільёнаў рублёў, апісаная інспекцыяй Дзяржаўнага падатковага камітэта па Баранавічах. Менавіта супрацоўнікі гэтай фіскальнай службы займаліся праверкай дзейнасці прыбытковага бізнесу і нібыта выкрылі сур'ёзныя парушэнні ў статутнай дзейнасці.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

**ЖЫЛЛЁ**

## Аварыйныя балконы — у кожным райцэнтры

Горшымі нават, чым можна было чакаць, аказаліся вынікі праверкі тэхнічнага стану балконаў, лоджыяў і іншых высунутых канструкцыяў у дамах жыллёвага фонду населеных пунктаў Брэсцкай вобласці. Як і ў Кобрыне, дзе 8 ліпеня гэтага года абваліўся балкон шматкватэрнага жылога дома па вуліцы Пушкіна і 2 чалавекі загінулі, а яшчэ 5 атрымалі траўмы цяжкай ступені, так і ва ўсіх іншых райцэнтрах цяпер забаронена карыстацца балконамі кансольнага тыпу ў дамах, пабудаваных да 1970 года. Усе яны прызнаныя аварыйнымі.

І хаця ў вытворчым упраўленні Брэсцкага аблвыканкама гавораць ужо пра 80.000 бракаваных балконных плітаў, але насамрэч іх выяўляецца нашмат больш. Прыкладам, толькі ў невялікім гарадку Пружаны жыхарам 35 кватэраў выдадзенае пісьмовае папярэджанне пад уласны подпіс, што яны не будуць ступаць ні кроку на балкон. Пад гэтую забарону трапілі і «вышчарбленыя» да арматуры балконы дома №12 па вуліцы Юбілейная, хаця яны эксплуатуюцца пасля 70-га года.

На жаль, толькі людское гора прымусіла ўладу правяраць тое, што можа ўпасці, абрушыцца, заваліцца. Пры хвалёнай пладавітасці на ўказы, дэкрэты і законы па нібыта сапраўднай бяспецы людзей, у Беларусі да цяперашняга часу застаюцца дзеючымі «Правілы і нормы ўтрымання жылых дамоў у гарадах і пасёлках Беларускай ССР». Яшчэ горш з рэальнай бяспекай: толькі ў бюджэце 2002 года могуць быць запланаваныя фінансавыя сродкі на пачатак капітальнага рамонту аварыйных балконаў.

**Галіна БАРАВАЯ**

**ЛЮСТРАФАКТ**



Фота IREX/ProMedia

У Заслаўі прайшоў фэст сярэднявечнай традыцыі й культуры «Заслаўскі набат». 17 рыцарскіх клубаў з розных рэгіёнаў Беларусі на вачах гледачоў аднавілі падзеі сярэднявечнай гісторыі. Упершыню тут адбыўся і Усебеларускі фестываль дудароў «Заслаўскі Дуднік».

## Нацыянальная прэмія Італіі беларусу

За пераклад на беларускую мову «Боскай камедыі» Дантэ беларускаму паэту Уладзіміру Скарынкіну ўручаная Нацыянальная прэмія Італіі.

Як паведаміла прэс-служба міністэрства замежных справаў Беларусі, цырымонія ўручэння адбылася 14 верасня ў Фларэнтыйскім палацы Рыма. Выступаючы на ёй, генеральны дарадчык прэзідэнта культурнага таварыства «Дантэ Аліг'еры» Італа Борцы адзначыў мужнасць і тытанічную працу беларускага паэта, які ажыццявіў такі складаны пераклад шэдэўра сусветнай літаратуры на высокім прафесійным узроўні. Сп. Борцы таксама падкрэсліў, што ў гэтыя трагічныя дні, калі жудасныя праявы рэлігійнага фанатызму пацягнулі за сабой шматлікія ахвяры невінаватых людзей, асобую актуальнасць набываюць заклік Дантэ да «царства міру», яго ідэі аб незалежнасці палітыкі ад рэлігіі, іх прынцыповай несумяшчальнасці і небяспекі іх змяшэння.

У слове ў адказ Уладзімір Скарынкін адзначыў неабходнасць аб'яднання намаганняў усіх краінаў у барацьбе з тэрарызмам, каб планета Зямля не стала брацкай магілай усяго чалавецтва.

**Наталля КУЛАГІНА**

**ПРЫРОДА**

## Сайт пра надвор'е

У верасні беларускія інтэрнэт-рэсурсы папоўніліся нацыянальным сайтам аб надвор'і і яго ўмовах. Цяпер на сайце па адрасе *http://www.meteo.by* можна знайсці актуальны і падрабязны прагноз надвор'я па такіх буйных гарадах рэспублікі, як Баранавічы, Бабруйск, Брэст, Віцебск, Гомель, Гродна, Мінск, Магілёў, Полацк. Апроч прагнозу, на сайце ёсць карта надвор'я па Беларусі, ёсць магчымасць даведацца аб узроўні геамагнітнай абстаноўкі, а таксама дзённае і начное надвор'е на тры і на дзесяць наступных дзён. З раздзела «рэтрапрагноз» можна азнаёміцца з умовамі надвор'я, якія былі зафіксаваныя раней.

Распрацоўшчыкамі гэтага сайта і спонсарам прагнозу надвор'я з'яўляецца ЗАТ «Міжнародны дзелавы альянс» – найбуйнейшы ў Беларусі пастаўшчык інфармацыйных тэхналогіяў. Інфармацыя аб надвор'і прадастаўляецца фондам «ФОБОС» і НПА «Мэп-Мэйкерс» – расійскай фірмай, якая займаецца вытворчасцю праграмнага забеспячэння для збору, апрацоўкі і прадастаўлення метэаралагічнай інфармацыі.

**Аляксей АРЭШКА**

## Этнаграфічныя набыткі

Калекцыі твораў мастацтва і фальклорных запісаў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі аб'яўленыя нацыянальным набыткам краіны. Пра гэта БелаПАН паведаміў намеснік дырэктара інстытута па навуковай рабоце доктар гісторыі Аляксандр Лакатко. Паводле яго словаў, урад прыняў пастанову аб уключэнні ў Дзяржаўны рэестр навуковых аб'ектаў, якія складаюць нацыянальны набытак, каля 20 тысяч твораў мастацтва з фондаў Музея старажытнабеларускай культуры.

Калекцыю гэтага музея, як адзначыў вучоны, можна параўнаць з фондамі славутых маскоўскай Траццякоўскай галерэі, парыжскага Луўра і берлінскай Гліптатэкі. У музеі інстытута імя Крапівы прадстаўленыя унікальныя ўзоры айчыннай культуры — першабытнага мастацтва, іканапісу, жывапісу, графікі, старадрукаў, паліхромнай скульптуры, мастацкай коўкі па метале, а таксама багатыя зборы твораў народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, у тым ліку тканінаў, вышыўкі, нацыянальнага касцюма, керамікі і пляцення.

Паводле словаў Лакатко, статус нацыянальнага набытку прысвоены таксама калекцыі фальклорных запісаў, якія збіраліся на працягу 60 гадоў і цяпер захоўваюцца ў фондах аддзела славістыкі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. «У гэтай калекцыі прадстаўлена каля 300 тысяч запісаў народных песень, баладаў, паданняў, каляндарна-абрадавых святаў і рытуалаў, зафіксаваных у аўтэнтычным выкананні і ў асяроддзі носьбітаў фальклору», — сказаў вучоны.

**Марат ГАРАВЫ**



**ФЕСТЫВАЛЬ**

## Беларускія мультфільмы — лепшыя

Беларускія мультфільмы сталі пераможцамі ў дзвюх з чатырох намінацыяў на IV міжнародным фестывалі анімацыйнага кіно «Анімаеўка-2001», які завяршыўся ў Магілёве. На фестывалі былі паказаныя 73 мультфільмы вытворчасці Беларусі, Украіны, Расіі, Галандыі, Кітая, Арменіі, Казахстана, Літвы, Латвіі, Эстоніі і шэрагу іншых дзяржаваў. У конкурснай праграме было паказана 32 работы.

Прыз сімпатыяў гледачоў дастаўся мультфільму беларуса Аляксандра Ленкіна «Яма, танцы і чатыры струны». Званне «Лепшы дзіцячы фільм» удастоена работа рэжысёра Юрыя Кулакова — анімацыйная карціна «Подна і Подні» расійска-брытанскай кампаніі «Крыстмас філмз». Лепшым эксперыментальным фільмам прызнаная карціна «Мячык» Міхаіла Тумеля, які прадстаўляў расійскую студыю «Пілот». Нарэшце, гран-пры фестывалю атрымала работа рэжысёра студыі «Беларусьфільм» Ірыны Кадзюковай «Прытча пра Каляды».

**Канстанцін УВАРАЎ**

**ЖЫВЁЛЫ**

## Хатні кот аказаўся шалёным

Тры чалавекі, у тым ліку двое дзяцей, пацярпелі ў Драгічынскім раёне ад укусу хатняга ката, які аказаўся шалёным. Як стала вядома БелаПАН, кот падрапаў і пакусаў дзвюх дзяўчынак, 1993 года нараджэння, жыхарак горада Драгічына і вёскі Сіманавічы Драгічынскага раёна, што гасцявалі ў вёсцы Пярэспа гэта ж раёна. 25-гадовы мужчына, жыхар горада Бярозы, які знаходзіўся разам з дзецьмі, таксама быў пакусаны шалёным катом. Усе пацярпелыя ўзяты на ўлік і праходзяць курс антырабічных прышчэпак.

Як расказаў карэспандэнту БелаПАН галоўны ветэрынарны ўрач Брэсцкай вобласці Аляксандр Гарбуз, сёлета на Брэстчыне выяўлена 65 шалёных жывёлаў. Часцей за ўсё гэта лісы, якія і з'яўляюцца разносчыкамі небяспечнай хваробы. Хварэюць і дамашнія жывёлы: каровы, коні, каты і сабакі. Адзначаныя выпадкі, калі дзікія жывёлы прыходзяць у вёскі. Напрыклад, сёлета жанчыну ва ўласным доме пакусаў шалёны воўк. Нярэдка церпяць дзеці — ад хворых катоў і сабак.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

## Бурштынавыя мары землякопаў

У цяперашні перыяд павышанага попыту на цвёрдае пячное паліва напаўсілы ўсяго працуе торфазавод «Гатча-Асоўскі», што ў Жабінкаўскім раёне. Землякопы вычарпалі ранейшыя запасы балотнай сыравіны, і цяпер тарфакрошку даводзіцца нарыхтоўваць на нізказалежных тарфяніках удалечыні ад прадпрыемства. 180 чалавек штатнага персаналу мала працуюць, дрэнна зарабляюць, а іхнія мары пра лепшую долю звязаныя хіба што з геолагаразведкай, якая актывізавала свой вышук на выпрацаваных плошчах. Лічыцца, што ля Гатчы адкрыта першая ў Беларусі праслойка прамысловых залежаў бурштыну, якая можа даць пачатак развіццю новай вытворчасці.

**Галіна БАРАВАЯ**

**ЗДАРЭННІ**

## МЧС супраць восаў

Работнікам дзіцячага садка №57 Брэста прыйшлося скарыстаць дапамогу спецыялістаў упраўлення МНС па Брэсцкай вобласці, каб знішчыць асіныя гнёзды.

Мінулым летам восы пасяліліся ў сцяне будынка дзіцячага садка, пад абліцовачнай пліткай. З наступленнем восені ўзрасла іх агрэсіўнасць – восы кусалі дзяцей. Каб аказаць дапамогу некаторым з іх, давялося нават выклікаць «хуткую дапамогу». Работнікі дзіцячага садка спрабавалі самі справіцца з восамі, аднак безвынікова. Спецыялісты МНС атруцілі восаў дымавой сумессю, а таксама забетаніравалі месцы, где знаходзіліся іх гнёзды. Толькі пасля гэтага насякомыя пакінулі тэрыторыю дзіцячага садка.

А нядаўна, паводле інфармацыі МНС, спецыялістам упраўлення давялося знішчыць восаў у гарадской кватэры.

**БелаПАН**

# Перавыхаванне нязгодных

*Пачаліся рэпрэсіі супраць назіральнікаў і актывістаў агітацыйнай кампаніі.*

У Задзіночаньне беларускіх студэнтаў патэлефанаваў супрацоўнік Савецкага РУУС Андрыеўскі. Ён шукаў Крысціну Сідун (старшыню ЗБС) і паведаміў, што ў РУУС Савецкага раёна Мінска прыйшоў запыт з КДБ. Згодна з гэтым запытам, Крысціну Сідун выклікаюць у Савецкі РУУС, каб пагутарыць з ёй у прысутнасці супрацоўнікаў КДБ.

18 верасня ў ПЦ «Вясна» звярнуўся выкладчык сельскагаспадарчага тэхнікума ў пасёлку Смілавічы Чэрвеньскага раёна Мінскай вобласці Нікіцін Аляксандр, які паведаміў наступнае: «Я працаваў у Смілавіцкім сельскагаспадарчым тэхнікуме з 1964 года. 5 верасня мяне запрасілі да дырэктара, дзе ён абвясціў мне, што педнагрузку з мяне зняў без ніякага тлумачэння прычыны. Цяпер я хачу аднавіцца на працы...»

Разам з тым Нікіцін Аляксандр прадставіў у ПЦ «Вясна» шэраг дакументаў, сярод якіх загад дырэктара тэхнікума: «У сувязі з выяўленнем фактаў правядзення антыдзяржаўнай палітыкі ў сельскагаспадарчым тэхнікуме (студэнцкія інтэрнаты, навучальныя карпусы і інш.), прыніжэння гонару і годнасці кандыдатаў у прэзідэнты РБ загадваю – Нікіціна Віталя Аляксандравіча, Нікіціну Лілію Леанідаўну, Кухаронак Валянціну Іванаўну папярэдзіць пра недапушчальнасць распаўсюджання на тэрыторыі тэхнікума брашураў, газет, лістовак і іншага друку, дзе прыніжаецца гонар і годнасць Прэзідэнта РБ, кандыдатаў у прэзідэнты РБ. 05.09.2001 г. Дырэктар тэхнікума Пілуй Н.Ф».

Прадставіў Нікіцін Аляксандр таксама і адказ з прафкама: «На Вашу заяву ў прафкам Смілавіцкага сельгастэхнікума паведамляем, што, згодна з арт.1 пункт 1 Працоўнага кодэкса, наймальнік мае права заключаць і скасоўваць працоўныя дамовы з супрацоўнікамі. Прафкам у дадзеным пытанні нічым дапамагчы не можа».

**Інфармацыйны аддзел ПЦ «Вясна»**




# Змаганне ліцэістаў

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

«Кожны дзень нам тэлефануюць, дасылаюць лісты і электронныя паведамленні з адной просьбай — захаваць ліцэй», — сказаў спадар Маслюкоў. Паводле яго словаў, ліст у падтрымку навучальнай установы прыйшоў у гарвыканкам з Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, які шмат гадоў супрацоўнічае з ліцэем у арганізацыі археалагічных даследаванняў на тэрыторыі Гомельскай і Магілёўскай абласцей. Падтрымала навучэнцаў і старшыня дзіцячага дабрачыннага фонду «Сакавік» Марыя Міцкевіч, унучка народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. «Пры дапамозе гэтага фонду праводзіцца штогадовае аздараўленне ліцэістаў у Вялікабрытаніі і Ірландыі», — сказаў Тэльман Маслюкоў.

Нагадаем, што загад аб закрыцці філіяла ліцэя быў выдадзены 11 верасня. Згодна з гэтым дакументам, усе ліцэісты пераводзяцца ў СШ № 1 Светлагорска, а адзін з будынкаў навучальнай установы перадаецца Дому дзіцячай і тэхнічнай творчасці. У загадзе ўсё гэта падаецца як «рэарганізацыя навучальнай установы». Аднак, згодна з неафіцыйнай версіяй, прычынай для закрыцця філіяла ліцэя стала арганізаваная там 7 верасня сустрэча навучэнцаў, настаўнікаў і гарадской інтэлігенцыі з няўгоднымі ўладам пісьменнікам Уладзімірам Арловым, а таксама бардамі Зміцерам Бартосікам і Вольгай Цярэшчанка.

Як распавёў Т.Маслюкоў, намеснік міністра адукацыі Беларусі Генадзь Дылян абяцаў да 20 верасня вырашыць праблемы, узніклыя вакол ліцэя. Пытанне аб лёсе светлагорскага філіяла ліцэя даручана разгледзець аднаму са спецыялістаў мінадукацыі, які займаецца работай ліцэяў. «Для вырашэння гэтай праблемы ў міністэрства, як бачна, будзе запрошаны намеснік дырэктара НДГЛ Лявон Баршчэўскі», — лічыць Маслюкоў. Разам з тым, паведаміў ён, з 17 верасня спыненае фінансаванне светлагорскага філіяла і аплаты працы выкладчыкаў, аб чым паведаміла загадчыца аддзела адукацыі Галіна Філіповіч; ліцэістаў перасталі карміць у школьнай сталоўцы. Нягледзячы на гэта, заняткі ў ліцэі не спыняюцца, выкладчыкі працуюць бясплатна.

Са словаў дырэктара светлагорскага філіяла Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя, старшыня Светлагорскага гарвыканкама Баляслаў Пірштук прапанаваў кіраўніцтву навучальнай установы спыніць пікетаванне будынкаў гарвыканкама і аддзела адукацыі, якое штодзённа праводзяць ліцэісты. «У сувязі з прапановай сп. Пірштука вырашаць пытанне аб далейшым функцыяванні ліцэя ў спакойнай абстаноўцы, без стварэння напружанасці, ліцэісты адмянілі правядзенне вячэрняга пікетавання 17-га і ранішняга 18 верасня», — сказаў Тэльман Маслюкоў. Дырэктар спадзяецца, што светлагорскі філіял ліцэя ўсё ж удасца захаваць, паколькі ні адзін ліцэіст не выказаў жадання пераходзіць у школу.

**Марат ГАРАВЫ**

# За бар'ерам абыякавасці

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Прапановы задзейнічаць у іх вытворчасці саміх калясачнікаў, якія лепш ведаюць, што ў тых трэба мадэрнізаваць, пакуль заставаліся без адказу. Каб атрымаць такую каляску бясплатна ад аддзела сацыяльнай абароны, напрыклад, у абласцях, трэба чакаць па паўгода.

Расійскія каляскі, якія выпускаюцца па ліцэнзіі нямецкай фірмы «Майра», ужо 2 гады не закупляюцца, а шведскіх калясак на ўсіх не хапае. З удзелам шведаў штогод арганізуюцца міжнародныя лагеры актыўнай рэабілітацыі для інвалідаў-калясачнікаў, куды яны прывозяць па 30 інвалідных калясак актыўнага тыпу, падладжваюць кожную каляску пад яе будучага ўладальніка і вучаць, як ёй кіраваць. Такія каляскі больш манеўраныя, надзейныя і важаць каля 6 кілаграмаў (параўнайце з нашымі 35-кілаграмовымі!). На ёй чалавек можа самастойна без чужой дапамогі ўзняцца па некрутой лесвіцы ці перасесці з яе ў машыну. І нягледзячы на тое, што вытворчасць такіх калясак на Беларусі так і не наладзілі, а купіць імпартовую файную каляску па кошце 1,5-2,5 тысячы долараў за сваю пенсію ніхто з калясачнікаў сабе дазволіць не можа, дзяржава рабіла спробы пры ўвозе шведскіх калясак на тэрыторыю Беларусі абкласці іх мытнымі зборамі.

Яшчэ складаней сітуацыя з аўтамабілямі з ручным кіраваннем. Звычайна гэта «Таўрыя», утрыманне якой уладальніку абыходзіцца даражэй за тыя ж «Жыгулі». У аддзелах сацыяльнай абароны стаяць у чэргах па іх трэба 10-15 гадоў. Адно што ёсць дастаткова часу, каб назбіраць тыя 800 долараў, якія трэба за яе даплачваць.

Разам з тым трэба разумець, што ў гэтым выпадку каляска і аўтамабіль – гэта не раскоша, а сродак першай неабходнасці для такіх людзей. Каб заставацца сацыяльна актыўнай асобай. Пасля страты магчымасці хадзіць жыццё не спыняецца, і ім, таксама як і ўсім, неабходна працаваць, вучыцца, адпачываць. Ці можна жыць на сярэднюю пенсію па інваліднасці ў 60 тысяч у сваё задавальненне? А тым людзям, хто інвалід з дзяцінства, дастаецца ад дзяржавы яшчэ менш.

Пабачыць на вуліцах чалавека на інваліднай калясцы вялікая рэдкасць не таму, што гэтых людзей так мала ці іх ужо нічога не цікавіць. Не, многа хто самастойна там-сям падрабляе, меней тых, хто ўладкаваўся на працу афіцыйна. Некаторыя завочна навучаюцца ў ВНУ. Але на шляху туды ці да якой-небудзь іншай установы для іх паўстае багата перашкодаў — прыступкі, вузкія ліфты, разнастайныя бардзюры, нязручны транспарт. Паказальна нават тое, што ні міністэрства сацыяльнай абароны, ні раённыя адміністрацыі не маюць спецыяльных пад'ездаў для інвалідных калясак.

Яшчэ ў 1997 годзе Мінгарвыканкам, зацвердзіўшы праграму па папярэджанні інваліднасці і рэабілітацыі інвалідаў, узяў на сябе абавязак да 2000 года стварыць безбар'ернае асяроддзе для пражывання асобаў з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі. Але за гэтыя тры гады нічога не змянілася, а праграма па стварэнні безбар'ернага асяроддзя стала «доўгатэрміновай». Адзінае што з'явіліся спецпад'езды каля самога будынка Мінгарвыканкама і пад'ёмнік для калясак на станцыі метро «Магілёўская». Але што з яго, калі на ніводнай іншай станцыі яго няма. Пакатацца — і назад на «Магілёўскую»? Нават падчас адкрыцця спартова-культурнага комплексу для людзей з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі на базе пратэзнага завода, дзе прысутнічаў прэм'ер-міністр Беларусі Уладзімір Ярмошын, пад'ёмнікі для інвалідных калясак не працавалі, і тых, хто не можа хадзіць самастойна, практычна на руках заносілі па лесвіцах. Дык для каго тады адкрывалі гэты рэабілітацыйны комплекс?

Абураныя такой абыякавасцю да свайго існавання напрыканцы жніўня некалькі дзесяткаў чалавек на інвалідных калясках каля Мінгарвыканкама правялі пікет. Але да дыялога гэта не прывяло: мэр прайшоў міма, нават не зірнуўшы ў іх бок.

Таксама ўлады не лічаць патрэбным прысутнасць калясачнікаў у Міжведамасным савеце па справах інвалідаў, адмаўляючы ім тым самым у праве голасу.

**Алена ЛАБАНАВА**

# З хронікі дзяржаўнага тэрору

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Нарэшце групу моладзі прывезлі ў Цэнтральны РАУС, размясцілі ў актавай зале. Пачаліся так званыя «установления личности»: сабралі дакументы, у каго якія былі, перапісалі прозвішчы, хатнія адрасы, тэлефоны.

Пасля трох гадзінаў затрымання трох непаўнагадовых з групы адпусцілі. Капітан міліцыі Малевіч склаў на паэта Славаміра Адамовіча пратакол. Пры гэтым ніхто з праваахоўнікаў ні юнакам, ні аўтару «Турэмнага дзённіка» прычыну затрымання растлумачыць не змог. І тады ў актавую залу ізноў зайшлі асобы ў цывільным; некаторыя з іх сваім вонкавым выглядам нагадвалі сапраўдных бандытаў. У іх ашклянелых вачах адбівалася адно жаданне: біць. Аднак праяўлялі яны і пэўную збянтэжанасць, таму што бачылі перад сабою не худых тынэйджэраў, не дзяўчат-ліцэістак і не гопнікаў з мікрараёна, а прыстойных маладых людзей, сярод якіх былі і курсанты ваенных вучылішчаў. Праўда, работнічкі невядомай спецслужбы бянтэжыліся нядоўга – з відавочнымі намерамі прымяніць сілу яны выбралі з групы трох юнакоў і вывелі з залы...

Толькі праз дзве гадзіны – прыкладна каля 9-й вечара – іх вярнулі назад.

Было бачна, што юнакоў білі. Білі нават па тварах. Білі, вымагаючы прызнанняў у арганізацыі злачыннай групоўкі, у падрыхтоўцы слаўных акцыяў супраць улады. На шчасце, дзяржтэрарыстам у цывільным прыйшлося задаволіцца толькі двума мяхамі патрыятычнай літаратуры ды стосам налепак – усё, што яны знайшлі ў кватэры аднаго з маладых патрыётаў.

9 верасня пачалася новая пяцігодка дзяржаўнага тэрору.

**Міраслаў ЧАНТАРЫЦКІ**

# «Хотим знать правду!»

В кампании «Хотим знать правду!» за 3,5 месяца приняло участие более 3.700 человек.

В формате кампании в 35 регионах Беларуси, а так же в ряде европейских столиц были проведены «Цепи неравнодушных людей».

Подготовлены и распространены два спецвыпуска газеты «Народная воля» общим тиражом 1.100.000 тысяч экземпляров. Изготовлено и распространено более 200.000 тысяч единиц иной информационной продукции.

Во время кампании задержано 80 человек.

333,5 часа люди провели в тюрьме, милиции.

К 11 человекам применялось физическое насилие.

В судах ждут своего рассмотрения ещё три дела.

8 активистов ОГП в судах оштрафовали на более чем 2 миллиона рублей.

В ходе кампании конфисковано около 100.000 экземпляров газет и более 3.000 тысяч другой печатной продукции.

В ходе избирательной кампании с участием родственников жертв политических репрессий были проведены встречи с избирателями в 23 городах и населённых пунктах Беларуси.

По итогам мероприятий, проведённых в рамках кампании «Хотим знать правду!», по российским телеканалам (НТВ, ТВ-6, РТР, ОРТ) прошло более 10 сюжетов.

Завершение кампании «Хотим знать правду!» возможно только при условии получения ответов на все вопросы по громким делам, привлечения к ответственности виновных в организации и осуществлении этих преступлений.



Фота Ул.ШЛАПАКА

# Жонкі зьніклых на нарадзе АБСЭ

У Варшаве адбываецца чарговая, шостая нарада АБСЭ па выкананьні абавязацельстваў у галіне правоў чалавека. На павестцы дня форуму больш за 30 пытаньняў. У прыватнасьці, пытаньні свабоды слова і веравызнаньняў і вяршынства закону, праблемы нацыянальных меншасьцяў, абароны правоў уцекачоў і вымушаных перасяленцаў. 21 верасьня ў рамках шостай нарады АБСЭ па выкананьню абавязацельстваў у галіне правоў чалавека пройдзе брыфінг «Гучныя справы: Беларусь і Украіна», на якім перад дэлегатамі нарады АБСЭ выступяць жонкі рэпрэсаваных беларускіх апазыцыянэраў – Людміла Карпенка, Сьвятлана Завадзкая, Ірына Красоўская, Вольга Захаранка, Зінаіда Ганчар і Тацяна Клімава, а таксама Міраслава Гангадзэ, жонка забітага ў верасьні 2000 году ўкраінскага журналіста

**КНІГАРНЯ**

## Книга, актуальная для всех




Думаю, не особенно преувеличу, утверждая, что, к большому сожалению, после 9 сентября в Беларуси актуальными остаются два литературных произведения – стихотворение «Убей президента» и документальная проза под названием «Тюремный дневник». Автор этих вещей известен – Славамир Адамович. Он – первый политический узник режима Лукашенко, прошедший две следственные тюрьмы, переживший восьмисуточную сухую голодовку, автор многих общественно-политических и культурных идей и акций.

Ровно семь лет – столько же, сколько управляет страной Лукашенко, – Славамир Адамович призывает здоровые оппозиционные силы к духовной и практической радикализации национально-освободительной борьбы.

Три месяца назад он издал вышеназванную книгу – «Тюремный дневник». К сожалению, к читателю она идет медленно. Пока ни одну оппозиционную общественно-политическую группу или партию «Тюремный дневник» почему-то не заинтересовал.

Впрочем, если нам еще пять лет предстоит жить под этим режимом, то у многих, конечно, будет время прочитать не только «Тюремный дневник» Адамовича, но – отмечаю это с глубоким прискорбием – даже написать свои.

По поводу знакомства с книгой и ее приобретения обращаться по телефону 277-16-49.

**М.Ч.**

## Супраць засілля «бензінавых монстраў»

22 верасня ў многіх краінах свету пройдзе нефармальны Дзень барацьбы з аўтамабілямі, дакладней, супраць іхняга засілля. У Мінску таксама адбудзецца акцыя ў падтрымку транспартных сродкаў, якія ўяўляюць сабой альтэрнатыву «бензінаваму монстру».

Антыаўтаакцыя пройдзе ў цэнтры Мінска з 15.30 да 16.30 з удзелам аматараў ровараў, скейтаў, ролікаў і пешага шпацыру па горадзе. Сёлета першы ў Беларусі Дзень барацьбы з аўтамабілямі мяркуецца правесці збольшага на роварах, а не на экстрэмальных сродках перасоўвання.

Шкода ад procьмы машынаў – у кожным нашым глытку паветра. Паводле статыстычных дадзеных, у сталіцы аўтатранспарт выкідае ў атмасферу нават больш шкодных рэчываў, чымсьці прадпрыемствы. У выніку забруджанасць паветра на фармальдэгід на многіх вуліцах горада ў 2-4 разы перавышае норму. Асабліва небяспечныя ўчасткі – гэта, напрыклад, вуліцы Маскоўская, Багдановіча, плошча Якуба Коласа.

Дробныя частачкі паліва ў выхлапных газах прыводзяць да цяжкіх захворванняў і нават да смерцяў. Нездарма штогод у Еўропе блізу 20 тысяч чалавек захворваюць на хранічны бранхіт і каля паўмільёна – на астму. Гэта ва ўмовах, калі ў развітых еўрапейскіх дзяржавах на двух жыхароў прыпадае адно аўто.

Што да беларускай сталіцы, то тут на 1.000 насельніцтва прыпадае 170 машынаў, то бок на 6 чалавек – адзін аўтамабіль. Аднак пераважна машыны ўжо патрыманыя, прычым гэта тычыцца і грамадскага, і асабістага аўтатранспарту. Спецыялісты даводзяць, што ў краіне даўно наспела неабходнасць увесці абмежаванні на выкарыстанне патрыманых «іншамарак», што старэйшыя за 8-10 гадоў.

**Кірэй МАНУЙЛА**

**КАЗУС**

## Паваротти отклонил обвинения

Знаменитый итальянский тенор Лучано Паваротти вновь предстал в понедельник перед судом города Модены. Он дал показания на обвинения в уклонении от уплаты подоходного налога в 1989-1995 годах с общей суммы от 35 млрд. до 40 млрд. лир (примерно от $17 млн. до около $20 млн.). В свою защиту знаменитый певец заявил, что его творческая деятельность почти полностью проходит за рубежом. «Я всегда считал, — подчеркнул он, — что неплательщики налогов — это те, кто зарабатывает деньги в Италии и переводит их за границу. А я зарабатываю деньги за границей и везу их в Италию. Поэтому не считаю себя уклоняющимся от налогов».

## Самая смешная шутка в мире

Британский психолог Ричард Вайзмен намерен научным путем обнаружить самую смешную шутку в мире, дабы выяснить, существует ли универсальный юмор, понятный всем и каждому, независимо от возраста, пола и национальности. Шутки принимаются исследователем на английском языке на его интернет-сайте (*www.laughlab.co.uk*), после чего с помощью системы голосования определится наиболее смешная из них. Эту шутку, в свою очередь, представят добровольцам, реакция которых на нее будет определена с помощью сканирования мозга. Это исследование будет полезно в изучении повреждений мозга, а также мыслительных процессов. В осознании шутки задействовано большое число сложных когнитивных операций. Так, например, люди, получившие повреждение передней части правого полушария мозга, не понимают шуток, хотя могут начать смеяться в совершенно неподходящий момент, рассказывает телекомпания Си-Эн-Эн. По словам Р.Вайзмена, проект продлится год. Сальные и оскорбительные остроты будут забракованы. А авторам шуток необходимо будет ответить на несколько вопросов, а также определить качество других «приколов» с помощью специального «смехометра».

# Наследие графа Цеппелина

В 60 километрах к югу от Берлина, в деревеньке Бризен-Бранд с населением в 350 человек, появилось необыкновенное сооружение. В нем легко может поместиться Кельнский собор: оно имеет длину 360, ширину 210 и высоту 107 метров. Это самый большой в мире цех, в котором будут создаваться дирижабли. Эти гиганты должны будут перевозить тяжелые и громоздкие грузы, принося при этом большую прибыль. Таковы надежды барона Карла фон Габленца, основателя «Карголифтер АГ».

### Справка

Вечером 2 июля 1900 г. после команды «отдать концы» в небо Германии над Боденским озером поднялся первый в мире дирижабль. Для того времени размеры предшественника «Карголифтера» – 128 метров в длину и 12 метров шириной – были внушительными. В одной из двух гондол находился граф Фердинанд фон Цеппелин, который на собственные средства претворял в жизнь идею нового летательного аппарата

Первый полет управляемого аэростата жесткой металлической конструкции, который поднимался в воздух с помощью водорода, был отпразднован с надлежащей помпой. Фон Цеппелин, которого высмеивали в течение многих месяцев, превратился из «кандидата в сумасшедший дом» в «покорителя небес». После первого дирижабля были построены еще 119. Во время мировой войны они служили бомбардировщиками – но безуспешно, так как были малоподвижными. Позднее цеппелины с комфортом перевозили пассажиров через Атлантику. Только авария дирижабля «Гинденбург» положила конец их эре. Он взорвался 6 мая 1937 г. у причальной мачты в американском городке Лейкхерст. Хватило одной искры и немного кислорода, чтобы произошел взрыв, при котором погибли 96 человек. Это событие, как и гибель «Титаника», потрясло мир. Два последних дирижабля были демонтированы в 1940 г. по приказу нацистского министра авиации Геринга.

### «Революционер» по традиции

Карл Габленц родился в семье воздухоплавателей, его дед был одним из основателей авиакомпании «Люфтганза», а отец — пилотом. Сам барон, будучи квалифицированным агрономом, банковским специалистом и доктором юридических наук, он занимался логистикой, преподавал в университете «Чэпл хилл» в северной Каролине. По возвращении из США решил заняться возрождением дирижаблей. Идея фон Габленца так же поражает воображение, как и сборочный цех, вырастающий на бранденбургской земле. Цеппелин «Карголифтер» (CL 160) будет в длину 260 метров и ширину 65 метров. Вместимость – 550.000 м³. По словам руководителя производства Кристофа фон Кесселя только на его носу может поместиться восьмиэтажный жилой дом, а в трюме – пассажирский круизный лайнер «Европа». 120 специалистов из 15 стран, работающих в деревне Бранд, уверены в успехе проекта. Они уже достигли прогресса: уже открыт сборочный цех, а «маленький» испытательный дирижабль «Джои» – величиной в «аэробус» – уже летает с октября 1999 г. Планируется ежегодный выпуск 4 дирижаблей. К 2015 г. будет создан флот из 50 грузовых судов, которые будут эксплуатироваться во всем мире.




Цеппелины никогда не производят посадку

### Воздушный лайнер класса «люкс»

Суждено ли высокотехнологичному «Карголифтеру» прожить долгую жизнь? Карл Габленц намерен решить насущную проблему в сфере логистики – сократить время транспортировки грузов. До сих пор турбины, целые сегменты мостов или части промышленных установок перевозятся с перегрузкой с одного транспортного средства на другое. Иногда останавливается движение на железных дорогах или блокируются целые трассы.

По данным конструкторов, скорость «Карголифтера» будет достигать как минимум 90 км в час, он будет летать на высоте в 2.000 м, минуя все препятствия по прямой. То, что до сих пор перевозилось неделями или месяцами, может быть доставлено «Карголифтером» за несколько дней. Функционировать «Карголифтер» будет так: благодаря грузовой раме, которая крепится под днищем судна, цеппелин сможет буксировать грузы весом до 160 тонн. Процесс погрузки и разгрузки, разработанный совместно с производителем подъемных кранов «Либхер», был апробирован с помощью компьютерной имитации. «Карголифтер» маневрирует на высоте в 100 метров над землей, его вертикальные пропеллеры работают так, будто дирижабль собирается идти на подъем. За счет этого четыре каната, которыми судно закреплено на земле, находятся в натянутом состоянии. Якоря крепятся на площади в 80 кв. метров. Эта свободная для посадки площадь является единственным инфраструктурным условием, необходимым «Карголифтеру». Например, посреди пустыни или над буровой платформой в море. Под цеппелином на лебедках опускается и фиксируется грузовая рама. На ней крепятся и отцепляются модули, которые выглядят как большие контейнеры. Для того чтобы компенсировать потерю веса при разгрузке, специальный хобот закачивает воду в баки, расположенные на грузовой платформе. В противном случае дирижабль улетел бы, как воздушный шарик, когда его выпускают из рук.



Карл фон Гобленц с макетами цеппелинов

Двигатели в 31.000 лошадиных сил могут компенсировать порывы ветра силой в 4 балла. Цеппелины будут находиться в большей зависимости от ветра, возвращаясь на верфь для прохождения техосмотра или ремонта. Тогда они должны будут попасть в ворота цеха. В Банде было решено построить очень большие ворота. Они занимают треть площади внешней поверхности цеха и похожи на лепестки цветка, каждый из которых весит 1.100 тонн. Когда ворота открываются, они по очереди раскрываются, оставляя 200-метровую щель для приема судов. Кроме того, еще не решен вопрос о том, как компенсировать потерю веса на длинных дистанциях, на которых расходуется много топлива. «Карголифтер» вмещает 50 тонн керосина – в дальнейшем, возможно, ему на смену придет дизельное топливо – и по мере его сжигания увеличивается подъемная сила. В «Карголифтер АГ» проблему уменьшения массы собираются решать за счет конденсата. Благодаря отходящему теплу от двигателей можно конденсировать влагу из воздуха и собирать ее. Но пока не будет найдено технически безупречное решение, прототип не сможет предпринимать дальних полетов.

Если «Карголифтер» будет иметь успех, он станет первым крупным технологическим проектом, разработанным в частном порядке. Это дорогое удовольствие: по оценке фон Габленца, до начала серийного производства требуется 1 млрд. марок. Однако не только акционеры компании разделяют оптимизм относительно проекта. Земля Бранденбург выделила 77 млн. марок. Федеральное правительство также поручилось за это предприятие. Благодаря инвестициям акционеров фирма «Карголифтер АГ» получила 330 млн. марок. Более 50.000 акционеров поверили в эту революционную идею.

По прогнозам Института морского хозяйства и логистики в Бремене, для грузового дирижабля найдется много работы. Расчеты показывают, что потенциальный объем грузоперевозок составит минимум 3 млн. тонн в год. Предварительные договоры уже заключены с более чем 20 концернами, такими как «Сименс», «МАН» и «Митсуи». Можно загрузить работой флот из 200 дирижаблей. Однако аренда одного цеппелина обойдется недешево: специалисты считают, что дневная плата за один «Карголифтер» составит минимум 200.000 марок. Карл фон Габленц говорит о ежегодном обороте для каждого дирижабля в 40 млн. марок. Оптимизм возродителей цеппелина разделяют сотни капитанов подводных лодок и «Боингов», которые подают заявления о приеме в экипаж дирижабля, состоящий из 10 человек.

**Кристина РЕРС**

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1762 Нумар падпісаны ў друк 18/09/2001 (15:00) Наклад – 9.470